© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1283) ГОД XXV БЕЛАСТОК 28 ВЕРАСНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.




*Дзяўчаткі з мастацкага калектыву бельскай гмінай школы.*

## ШТО МОЖА ШКОЛА?

Бельская зборная гмінная школа належыць да адной з найбольшых у нашым ваяводстве, а можа і ў краіне. У самой школе ў Бельску вучыцца каля 600 дзяцей, апрача таго, школа мае яшчэ 16 філіялаў у розных вёсках Бельшчыны, у тым ліку аж адзінаццаць — поўных васьмікласных.

Адна з падставовых спраў школы на сённяшні дзень — давоз вучняў з розных мясцовасцей на заняткі. У гэтай школе даязджае 418 чалавек. Школа мае ўласны школьны аўтобус, які курсуе некалькі разоў у дзень па спецыяльнай трасе, спалучаючы ўсе вёскі гміны, збіраючы і развозячы дзяцей па школах. Апрача таго, сем трактарных прычэпаў робяць па два курсы штодзень. Розныя драбнейшыя справы транспарту бярэ на сябе, таксама школьны, „Жук“.

І вось вельмі важна, каб усе гэтыя сродкі транспарту былі ў поўным парадку, каб штодзень усе дзеці маглі даехаць у школу.

Дзякуючы добраму супрацоўніцтву школы з яе апекунамі — Спулдзельняй сельскагаспадарчых гурткоў і Гміннай спулдзельняй, дырэктару школы Аляксандру Артэмовічу ўдаецца пастаянна ўтрымліваць школьны транспарт у поўнай спраўнасці. Спулдзельня сельгасгурткоў нейкі час нават платы не брала на рамонт прычэпаў. Усё гэта рабілася ў рамах апякунства і бацькоўскай дапамогі школе. А і цяпер, хоць ужо платна, спулдзельня робіць усе рамонты на час і вельмі салідна. Дзякуючы гэтаму, усе сродкі школьнага транспарту курсуюць рэгулярна і дзеці могуць спакойна вучыцца.

Спулдзельня сельгасгурткоў вельмі дапамагла таксама школе на час закончыць летнія рамонты. Ва ўсіх школах Бельскай гміны рамонты былі закончаны да пачатку навучальнага года У двух школах гміны — у Кнарыдах і Пасынках, былі праведзены капітальныя рамонты будынкаў, а ў Райску рамонт правяла брыгада СКР.

Школа не застаецца ў даўгу ў сваіх апекуноў. Вучні выступаюць у іх з канцэртамі (у школе існуе вялікі, 100-асабовы мастацкі калектыў), дапамагаюць працай — перабіралі і капалі бульбу, палолі і інш., часта СКР ці ГС выкарыстоўваюць школьныя будынкі на свае сходы ці ўрачыстасці.

Пад апекай ГС вучні ўжо традыцыйна прымаюць удзел у акцыі „Шклянка гарачага малака“. У асенні і зімовы час каля 800 вучняў бельскай гміннай школы атрымлівае ў школе гарачае малако.

Мастацкім калектывам школы ў Бельску заапекаваўся бельскі філіял беластоцкай фабрыкі „Понар-Бял“. Школа атрымала ад фабрыкі грошы на касцюмы для выступленняў.

Як бачым, гмінная школа ў Бельску моцна абапіраецца на асяроддзе, у якім працуе, атрымлівае ад яго дапамогу і сама стараецца рабіць людзям і ўстановам усё, што ў яе сілах.

Але не ўсе справы гміннай школы

(Працяг на стар. 4)

## Гутарка дзядзькі Максіма

Столькі гадоў хаджу я па гэтым свеце, але такой пагоды, такой бяды, якая зараз, я дагэтуль не сустракаў. У мінулым годзе, для прыкладу, сабралі мы вельмі слабы ўраджай, на ўзроўні таго, які мой бацька збіраў у першыя гады пасля вайны, калі нашы хлебаробы не ведалі яшчэ, што гэта такое мінеральныя ўгнаенні, гербецыды і пестыцыды, а трактара баяліся, як нейкай пякельнай машыны.

А што чаўпецца ў гэтым годзе? Дождж і дождж. Нават тое, што мы скасілі, не можам звезці.

## СТАРЭЮ, ДУРНЕЮ...

— Нічога, на паперы і ў справаздачах усё будзе ў парадку, — перабіла мяне мая Палашка, а я не змог ёй запярэчыць, бо сапраўды, нават у нашай гміне, колькі разоў прымаў я ўдзел у пасяджэннях гміннай рады, заўсёды з даклада старшыні вынікала, што дынаміка развіцця нашай гміннай гаспадаркі шмат вышэйшая ў параўнанні з папярэднім перыядам. Мала хто з нас, прысутных, праўду кажучы, што-колеч ведаў і разумеў, з чым можна з'есці гэтую „дынаміку“ і да чаго яна адносіцца, але ніхто не пярэчыў, бо старшыня рады, хаця і гміннай, не абы-хто, чалавек з вышэйшай адукацыяй, давераны. Калі хлусіць, дык хрэн з ім. Значыць, так трэба, можа яго службовы абавязак такі. Ці ж мала сярод нас такіх людзей, якія і чорта назавуць анёлам, калі сваю карысць у гэтым знюхаюць?!

Такія думкі чамусьці лезлі мне ў галаву, калі я сядзеў ля акна і ўзіраўся ў шэрае сумнае неба. Кроплі дажджу назойліва бубнілі аб шыбу і падаконнік, вецер ламаў старую грушу, а цяжкія хмары паўзлі амаль над дрэвамі.

— Ну і што з гэтага будзе, Максімка? — звярнулася да мяне Палашка. — Гаварыла я табе, што давай уручную будзем авёс касіць, як даўней бывала, а ты — не, захацелася табе тэхнікі, рашыў пачакаць эскаэраўскай снопавязалкі! І дачакаўся!

— Слава Богу, — гавару ёй, — што жыта мы паспелі звезці.

Яна, аднак, слухаць не хацела маіх слоў і давай ізноў чытаць мне пропаведзь аб тым, які я лянівы зрабіўся і самай простай справы не патраплю ўжо ўладзіць.

— Нябось, — гаварыла лепшая частка майго сямейнага шчасця, — Антон Крыванос не чакаў у чарзе за машынамі! Яму нават „Бізонам“ скасілі і абмалацілі...

— Бо ў яго спецыялістычная гаспадарка, — буркнуў я жонцы, каб адчапілася.

— Бачыш ты яго! — усклікнула яна. — Знайшоўся спецыяліст! На дзяржаўных кармах і я магла б быць такім спецыялістам!

— Ніхто табе не бароніць, — адказаў я жонцы, але без унутранага перака-

(Працяг на стар. 4)

## IX З'ЕЗД БГКТ

## КАБ ЖЫЛІ І РАЗВІВАЛІСЯ...

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ МІКАЛАЯ ПАНФІЛЮКА — ДЭЛЕГАТА З ДУБІЧ ЦАРКОЎНЫХ)**

— За мінулыя чатыры гады ў дзейнасці БГКТ шмат што змянілася, — сказаў М. Панфілюк. — Былі ў нас і дасягненні і недахопы. Галоўная прычына недахопаў у працы, напрыклад, нашага бэгэкатоўскага гуртка ў Дубічах Царкоўных, памойму, гэта тое, што цяпер моладзь не сядзіць дома, не трымаецца сяла. А яшчэ маё пакаленне, памятаю, у вольны час збіралася на вечарынкі ў святліцы, з запалам рыхтавалі мы пастаноўкі, выступалі з імі не толькі ў сябе, але нават паказвалі ў суседніх сёлах. А сёння? Хоць сёння гаспадарыць не так цяжка, бо ўсё робіцца пераважна машынамі, а людзі жывуць у добрых умовах, заможна, але ўсё ж хто толькі здолее, той уцякае ў горад. З маладых у вёсцы засталіся лічаныя адзінкі. І як тут згуртаваць іх і разгарнуць культурна-асветную дзейнасць? Але мы ўсведамляем сабе, што нельга апускаць рук, што трэба рабіць усё, каб гурткі жылі і развівалі сваю працу.



Цяжка сёння ўявіць сабе Беларускае грамадска-культурнае таварыства без „Нівы“. „Ніва“ як орган ГП БГКТ адыгрывае вялікую ролю сярод нашага насельніцтва: яна служыць нам інфарматарам і агітатарам — дома, а ў школе — дапаможнікам. І таму, чым больш нашага тыднёвіка будзе даходзіць да нашых людзей, тым лепш для ўсіх нас. І калі наш дубіцкі гурток БГКТ не стаіць высока ў іншых формах культурна-асветнай дзейнасці, то ў падпісцы „Нівы“ мы займаем вядучае месца. Не буду таіцца, што ў гэтым ёсць і мой асабісты ўклад. Працую я лістаносцам і ў сваім раёне прапагандую наш тыднёвік. Ужо шэраг год людзі ў нас выпісваюць вельмі многа „Нівы“, цяпер найбольш ва ўсім Беластоцкім ваяводстве. Дагэтуль у маім раёне было 189 падпісчыкаў, а ў гонар нашага IX з'езда да 10 чэрвеня пастараюся знайсці яшчэ 11 чалавек, каб у другім паўгоддзі было ў мяне роўна 200 падпісчыкаў. Хачу, каб не было ў нас такога гаспадара, якому ў кожную пятніцу не ўручыў бы я нашу родную „Ніву“. З прыемнасцю сцвярджаю, што яе паважаюць і з цікавасцю чытаюць у беларускім асяроддзі, а гэта значыць, што людзі шануюць і ўсю нашу арганізацыю.

І ёсць у мяне, і, думаю, таксама ў многіх з нас, пажаданне, каб нашыя аўтары з аб'яднання „Белавежа“ больш пісалі сцэнічных і іншых твораў, якія былі б прыгодны для скарыстання ў культурна-асветнай працы ў нашых гуртках і школах, бо забедна ў нас з такімі матэрыяламі. А маем жа здольных і цікавых паэтаў, празаікаў, публіцыстаў, якія патрапяць рабіць гэта ўдала: Віктар Швед, які ідзе Купалаўскай дарогай, Аляксандр Баршчэўскі — чулы на чалавечыя пачуцці, мой зямляк — паэт і вучоны Іван Чыквін, малады літаратар Міхась Шаховіч, вопытны пісьменнік Сакрат Яновіч, улюбёны ў гісторыю Беласточчыны Мікалай Гайдук, здольны журналіст „Нівы“ Віктар Рудчык і іншыя.

Нававыбранаму Галоўнаму праўленню БГКТ, усім дэлегатам і гасцям нашага з'езда жадаю ўсяго найлепшага ў іх жыцці і выдатных вынікаў у працы, каб наша беларуская культура і мова жылі і развіваліся.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

